ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

# FABLES

ПЕРАКЛАД НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ: **АРТУР БАРАДАЧОЎ**

АФАРМЛЕННЕ: **СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ**

# 5



























**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ЗА ПАДТРЫМКУ COMICSBY.BY:**

**Сяргей Лісічонак**

ЧАМУ ТЫ ПАКІДАЕШ ТУТ МЯНЕ **АДНАГО**, БОЗЛІ?

Я НЯ СТВОРАНЫ ДЛЯ САМОТЫ.

КАЛІ МЫ СКОНЧЫМ, ТАБЕ НЯ БУДЗЕ СКЛАДАНА ВЯРНУЦЬ МЯНЕ ДА МАІХ **БРАТОЎ**?

ТЫ ВЕРНЕШСЯ ТУДЫ ТОЛЬКІ Ў ТЫМ ВЫПАДКУ, КАЛІ ЗДАШ НАМ ЯГО З УСІМІ **ТРЫБУХАМІ**, І НЕ СЕКУНДАЙ РАНЕЙ.

АБУРАЙСЯ КОЛЬКІ ПАЖАДАЕШ, АРЛО, АЛЕ ТВОЙ ЛЁС **ЦАЛКАМ** ЗНАХОДЗІЦЦА Ў ТВАІХ РУКАХ, ЯКІХ У ЦЯБЕ НЯМА.

ЧЫМ ХУТЧЭЙ ТЫ **ЎСЁ** АПАВЯДЗЕШ, ТЫМ ХУТЧЭЙ ТВАЯ ІЗАЛЯЦЫЯ СКОНЧЫЦЦА.

ДОБРА. У ТАКІМ ВЫПАДКУ ДАВАЙЦЕ ПРАЦЯГНЕМ.

# Доўгая, цяжкая восень

*У якой усе пасады і апартаменты будуць размеркаваны. Героі змушана пачнуць новыя главы ў сваім жыцці, а драўляная галава паведаміць усё, што ведае.*

Written & Created by Bill Willingham — Pencilled by Mark Buckingham — Inked by Steve Leialoha
Lettered by Todd Klein — Colored by Daniel Vozzo — Cover Art by James Jean
Assistant Editor: Mariah Huehner — Editor: Shelly Bond





НА ЧЫМ МЫ ЎЧОРА СПЫНІЛІСЯ?
БРАМА.
А, САПРАЎДЫ, **БРАМА**.




БАЦЬКА ЗАГАДАЎ **ЗАЧЫНІЦЬ** УСЕ БРАМЫ Ў ГЭТЫ СВЕТ, ЯКІЯ МЫ ТОЛЬКІ ЗНОЙДЗЕМ.
ЁН БАІЦЦА **АТАКІ** З БОКУ ЗВЫЧАЙНЫХ.




ЦІ, ШТО ГОРШ – УТОЕНАЕ ПРАСЯКАН-НЕ ІХ **ТЭХНАЛОГІЙ**.
ГЭТА МОЖА СТВАРЫЦЬ ХАОС І ЗМЯНІЦЬ БАЛАНС СІЛ.




МПЕРЫІ, ЯКАЯ КІРУЕЦЦА ЭЛІТАЙ МАГІІ, НЕ ПАТРЭБ-НА СУЧАСНАЯ ЗБРОЯ. ГЭТА ДАЗВОЛІЦЬ КОЖНАМУ СЕЛЯНІНУ СТАЦЬ ПАДОБ-НЫМ НА НАШАГА НАЙЛЕП-ШАГА ЧАРАЎНІКА.
НЯМА ЦМОКА, ЯКІ Б БЫЎ ДА ПАРЫ **ЗНІШЧАЛЬНІКУ**, ТАК?




ГЭТА ЎСЁ З-ЗА ЗБРОІ, РАЗУМЕЕЦЕ?
ПА СУТНАСЦІ, УСЕ ГЭТЫЯ СУЧАСНЫЯ ТЭХНАЛОГІІ ДАЛІ ЗВЫЧАЙ-НАМУ ЧАЛАВЕКУ ЎЛАДУ І ВЫЗВАЛІЛІ ЯГО АД КАНТРОЛЮ ЗВЕРХУ.








ДОБРАЙ РАНІЦЫ, ГРЫМБЛ. МНЕ ТРЭБА СУСТРЭЦЦА СА СНЕЖКАЙ У ОФІСЕ.
ПРАХО-ДЗЬЦЕ, МЭМ. МІС СНЕЖКА ЎЖО ТАМ.




ПРЫВІТАННЕ.
СНЕЖКА?




ШШШШШ!
ПРЫГАЖУНЯ...
ТЫ **ПАБУДЗІШ** ДЗЯЦЕЙ.




Я ІХ ТОЛЬКІ ПАКЛА-ЛА ПАСЛЯ РАНІШНЯГА КАРМЛЕННЯ.
ДОБРА, ПАКЛАЛА НЕ ЛІТАРАЛЬНА, АЛЕ...
ЯНЫ **ПРЫГАЖЭЮЦЬ** З КОЖНЫМ ДНЁМ.









ТОЛЬКІ КАЛІ **СПЯЦЬ**.
АЛЕ КАЛІ ЯНЫ НЯ СПЯЦЬ, ЯНЫ ЎЛЯТАЮЦЬ ДА МЕЖЫ ДАСЯГАЛЬНАСЦІ, ПЭЦКАЮЦЬ ПАДГУЗКІ І КРЫЧАЦЬ...


Я МАГУ КАРМІЦЬ ТОЛЬКІ ДВАІХ ЗА РАЗ, А АСТАТНІЯ НЕ ЖАДАЮЦЬ **ЧАКАЦЬ** СВАЮ ЧАРГУ.
ТЫМ НЕ МЕНШ, ГЭТА ЧЫНІЦЬ ДЗІВЫ З ТВАЁЙ ПОСТАЦЦЮ. ТВАЕ **ГРУДЗІ** НАШМАТ ПАВЯЛІЧЫЛІСЯ.


ІДУ Ў ЗАКЛАД, ГЭТА ЗНАЧНА ПАЛЯПШАЕ ТВАЁ СЭКСУАЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ.
МММ... МАБЫЦЬ ПАЧНЕМ УЖО? ПАД КАНЕЦ МЕСЯЦА Я РУШУ НА ФЕРМУ, І ПЕРАД ГЭТЫМ ТЫ ПАВІННА ШТОСЬЦІ ДАВЕДАЦЦА...




ПА-ПЕРШАЕ, РАЮ ТАБЕ НЕ ЗВАЛЬНЯЦЬ БАФКІНА І ПАСТУШКА, ЯНЫ **НЕАЦЭННЫЯ**.
УДВАІХ ЯНЫ ВЕДАЮЦЬ, ДЗЕ ШТО ЗНАХОДІЗЦЦА І ШТО ТРЭБА РАБІЦЬ У КРЫТЫЧНАЙ СІТУАЦЫІ.


ГЭТА ДАЗВОЛІЦЬ ВЫРАШЫЦЬ УСЯЛЯКУЮ НОВУЮ ПРАБЛЕМУ, А **АПОШНІЯ**, ТЫ МНЕ ПАВЕР, З'ЯЎЛЯЮЦЦА З ЖАХАВІТАЙ ЧАСТАСЦЮ.


БЕЗУМОЎНА, ТАБЕ НЕАБХОДНА ЗНОЎ АБМЕРКАВАЦЬ ПАДЗЕЛ АБАВЯЗКАЎ З НОВЫМ МЭРАМ.
МАБЫЦЬ, ВЫДАТНЫ ПРЫНЦ ПАЖАДАЕ СТАЦЬ КАРЫСНЕЙ ЗА КАРАЛЯ КОЛЯ.


Я ШАНУЮ ТОЕ, ШТО ТЫ З'ЕДЗЕШ НА НЕКАЛЬКІ ДЗЁН РАНЕЙ, КАРОЛЬ КОЛЬ.


УДЗЯЧНЫ ДАПАМАГЧЫ.
Я ЖАДАЮ РАЗМЯСЦІЦЦА Ў ПЕНТХАЎСЕ ДА ДНЯ ІНАЎГУРАЦЫІ, КАБ ЛЕДЗЬ ПАЗНЕЙ ПРАЦЯГНУЦЬ ВЕЧАРЫНУ ТУТ.
STORAGE


DRUM
PIPES
KITCHEN STUFF
FIDDLERS X 3
CUSHIONS
ЯК ТОЛЬКІ ЯГО МЭБЛЯ БУДЗЕ ВЫВЕЗЕНА, Я ЖАДАЎ БЫ НАБЫЦЬ НОВУЮ. ШМАТ СКУРЫ І ТАМУ ПАДОБНАЕ.
АЛЕ НЯ ТРЭБА ЗАБЫВАЦЦА ПРА **КАШТОЎНЕЙШЫЯ** РЭЧЫ, ЯКІЯ МЫ МОЖАМ КАНФІСКАВАЦЬ З МАЁМАСЦІ СІНЕБАРОДА.


І СТАРЫ БАСЕЙН ТАКСАМА НЕАБХОДНА ЗАМЯНІЦЬ. МНЕ ПАТРЭБНЫ БОЛЬШ БУЙНЫ І ЭЛЕГАНТНЫ БАСЕЙН.
АЛЕ, МАГЧЫМА, НАМ НЕАБХОДНА ПЕРАЧАКАЦЬ ЗІМУ, ПЕРШ ЧЫМ ПАЧАЦЬ ПРАЦУ.
ЗАПІСАЎ, ХОБС?
ТАК, ВАША СВЕТЛАСЦЬ.







РУБЦОЎ НЯМА. ДУЖАСЦЬ ЗУХА ДОБРАЯ. **ПОЎНАЯ** РУХАВАСЦЬ ПАЛЬЦАЎ АДНОЎЛЕНА.
ЯКІ РАЗ Я АЖЫЦЦЯЎЛЯЮ ТОЕ, ШТО НІКОМУ ІНШАМУ НЕ ПАДНАЧАЛЕНА.
Я ВЕЛЬМІ ЎДЗЯЧНЫ, ДОКТАР СВІНОЕ СЭРЦА.




ЦЯПЕР ТЫ ЗНОЎ ЗМОЖАШ **ДАКУЧАЦЬ** НАМ БЕСПЕРАПЫННАЙ ГУЛЬНЁЙ НА СВАЁЙ ФЛЕЙЦЕ.
DING-DONG
ПРАБАЧЦЕ, ДОКТАР. ЗВАНОК У ДЗВЕРЫ.




**КАРОЛЬ КОЛЬ!**
ДЗЯКУЙ, ШТО ДАЗВОЛІЎ МНЕ **ПАЖЫЦЬ** У ЦЯБЕ, ПАСТУШОК.
НЯМА ЗА ШТО. УВАХОДЗЬЦЕ. МАГЛІ Б ПАКЛІКАЦЬ МЯНЕ, КАБ Я ВАМ ДАПАМОГ.




Я НЕ БУДУ ДОЎГА НАДА-КУЧАЦЬ ТАБЕ.
МОЖАЦЕ ЗАСТАВАЦЦА, КОЛЬКІ ПАЖАДАЕЦЕ, ВАША СВЕТЛАСЦЬ.
ЯК ТОЛЬКІ ПРЫГАЖУНЯ І ПАЧ-ВАРА ПЕРАЕДУЦЬ У АПАРТАМЕНТЫ СНЕЖКІ, Я АТРЫМАЮ ІХ КВАТЭРУ.




ДОБРА, ПАПЯЛУШКА, НА СЁННЯ ЎСЁ.
ТАК ЯК АРЛО ЗЛІЎ ДАСТАТКОВА ВЫВЕДДАДЗЕНЫХ, МО-ЖАШ ВЯРНУЦЬ ЯГО ДА БРАТОЎ.






НАРЭШЦЕ.
ЗАЎТРА ПАЧНЁМ РАЗМОВУ З АСТАТНІМІ.
ШТО НАКОНТ РЭДЖЫНАЛЬДА? ЁН ЗДЗІЎЛЯЕ МЯНЕ СВА-ЁЙ ЗДОЛЬНАСЦЮ БАЛБАТАЦЬ.




ДОБРА. ПЕРАКАНАЙСЯ, ШТО ЖУРНАЛ БУДЗЕ Ў **БЯСПЕЦЫ**.
ЗРАЗУМЕЛА, УБАЧЫМСЯ **РАНІЦАЙ**.




НАВОШТА ТУТ ПАПЯЛУШКА? ДЛЯ ЧАГО ЯНА?
ЯНА – АДЗІН З **САКРЭТАЎ**, ЯКІЯ ТАБЕ НЕАБХОД-НА НАВУЧЫЦЦА ЗАХОЎВАЦЬ, ПЕРШ ЧЫМ СТАЦЬ ШЭРЫ-ФАМ.




Я АПАВЯДУ БОЛЬШ, КАЛІ ПАВЕРУ, ШТО ТЫ НЯ БУДЗЕШ **РАСЦЯПАЙ** НА ПРАЦЫ.
БАЧУ, МНЕ БУДЗЕ ТРЭБА ДАВЕДАЦЦА БОЛЬШ, ЧЫМ Я ЛІЧЫЎ.




КАЛІ Ў ЦЯБЕ ЁСЦЬ НАТУРА, ТО З ПРАЦАЙ ТЫ АСВОЙВАЕШСЯ ДАСТАТКОВА **ХУТКА**.
ГЭТА ГРЫМУЧАЯ СУМЕСЬ ШЭРЫФА НЕВЯЛІКАГА ГОРАДА І КІРАЎНІКА ТАЕМНАЙ ШПІЁНСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ.






ПА БОЛЬШАЙ ЧАСТЦЫ, ТЫ ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ ТАКІЯ САКРЭТЫ, ЯКІЯ ТРЭБА ЗАХОЎВАЦЬ НАВАТ АД СВАІХ БОСАЎ.
ТАБЕ ТРЭБА НАВУЧЫЦЦА ЧУЦЬ, ШТО ІМ НЕАБХОДНА ВЕДАЦЬ, А ШТО НЕ ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ НІХТО.


КУДЫ МЫ ІДЗЕМ, БОЗЛІ? ОФІС У ІНШЫМ БОКУ.
Я МЯРКУЮ, ТЫ ЗАРАБІЎ ХОЦЬ КРЫХУ ПАВАГІ.


ІДЗІЦЕ ЗА МНОЙ, МІСТЭР ПАЧВАРА, І Я ПАКАЖУ ВАМ АДНУ З ГАЛОЎНЫХ РЭЧАЎ, ПРА ЯКУЮ ВЫ НЯ ЗМОЖАЦЕ НІКОМУ І НІКОЛІ ПАВЕДАМІЦЬ – НАВАТ СВАЁЙ **ЖОНЦЫ**.
АЛЕ ЯНА Ж БУДЗЕ НАМЕСНІКАМ МЭРА, МАІМ НЕПАСРЭДНЫМ **НАЧАЛЬНІКАМ**.


ПРАВІЛЬНА. ЛІЧЫ ГЭТА МАІМ ТЭСТАМ НА ВЫТРЫМКУ ГРУЗУ, ЯКІ ТЫ БУДЗЕШ ВЫМУШАНЫ НЕСЦІ **АДЗІН**.


ЧАСТКОВА ФЭЙБЛТАЎН ТАК ДОБРА ПРАЦАВАЎ У МІНУЛЫМ ТАМУ, ШТО Я ДОБРААХВОТНА РАБІЎ УСЮ **БРУДНУЮ** ПРАЦУ, ПРА ЯКУЮ СНЕЖКА І КАРОЛЬ КОЛЬ НЕ ПАВІННЫ БЫЛІ І НЕ ЖАДАЛІ Б ВЕДАЦЬ.
АД ЦЯБЕ, ГАЛОЎНЫМ ЧЫНАМ, ЗАЛЕЖЫЦЬ, ЯК ФЭЙБЛТАЎН БУДЗЕ ПРАЦАВАЦЬ У БУДУЧЫНІ.


ВІТАЮ, БАФКІН, УСЕ **ПАЙШЛІ** СПАЦЬ?
АГА. СНЕЖКА ЗАБРАЛА ЎСІХ НЕКАЛЬКІ **ГАДЗІН** ТАМУ.


БОЗЛІ І ПАЧВАРА ДАГЭТУЛЬ ДЗЕСЬЦІ Ў ДАЛЁКІХ КАЛІДОРАХ.
АКЕЙ. МОЙ НОВЫ СУСЕД СПІЦЬ, А МНЕ НЕАБХОДНА ПАПРАКТЫКАВАЦЦА Ў ГУЛЬНЕ **НА ГОРНЕ**.


ТАМУ, КАЛІ ЖАДАЕШ ПАСПАЦЬ, ЗАБЯРЫ КОШ У АДЗІН З ДАЛЁКІХ ПАКОЯЎ.
БЕЗУМОЎНА. НАВАТ І НЕ СПРАЧАЮСЯ.


УБАЧЫМСЯ, СЯБРУК.


ДА ПАБАЧЭННЯ, ДРУЖА.
ПАКЛАПАЦІСЯ ПРА ЎСІХ, ДОБРА?








МІСТЭР ПАЧВАРА, ПАЗНАЁМЦЕСЯ З ГУДРУН, ГУСКАЙ, ШТО НЯСЕ **ЗАЛАТЫЯ** ЯЙКІ.
ГЭЙ, БОЗЛІ. ВІТАЮ, МІСТАР ПАЧВАРА.
ВОХ ТЫ Ж.


АЛЕ Ж ТЫ ПАМЁРЛА. ЦЯБЕ ЗАБІЛІ Ў РОДНЫХ ЗЕМЛЯХ НЕКАЛЬКІ СТАГОДДЗЯЎ ТАМУ.
ЧАСТКА ЛЕГЕНДЫ, ВЫДУМАНАЯ МНОЙ І БОЗЛІ.


НАВОШТА?
ТАМУ ШТО ЗА ЗАЛАТЫЯ ЯЙКІ ГУДРУН Я **АПЛАЧВАЮ** СВАЕ **НЕСАНКЦЫЯНАВАНЫЯ** АПЕРАЦЫІ – ЦЯПЕР БУДЗЕШ І ТЫ.


У НАСТУПНЫ РАЗ Я ПАЗНАЁМЛЮ ЦЯБЕ З ХЛОПЦАМ У ДАЎНТАЎНЕ, ЯКІ ВЫРАБЛЯЕ З ГЭТАГА ГРОШЫ.
СВЯТЫЯ ЎГОДНІКІ, **КУДЫ** ТЫ МЯНЕ ЎЦЯГНУЎ?


ЛЕПШ ТАБЕ ХУТЧЭЙ ПРА ГЭТА ДАВЕДАЦЦА.
Я АМАЛЬ ПАКІНУЎ ПАСАДУ, І **ТАБЕ** ТРЭБА БУДЗЕ АКУНУЦЦА Ў ГЭТЫ ВІР З ГАЛАВОЙ.




МІНУЛЫЯ ДНІ.
КАЛІ Я З ДЗЕЦЬМІ ПАЕДУ, КУДЫ ТЫ НАКІРУЕШСЯ?
НЯ ВЕДАЮ, АЛЕ, БЕЗУМОЎНА, ТУТ Я НЕ ЗАСТАНУСЯ.
АЛЕ ТЫ ПАТРЭБНЫ **ФЭЙБЛТАЎНУ**.
Я СТАГОДДЗЯМІ АДДАНА СЛУЖЫЎ ЯМУ. АЛЕ З-ЗА МАІХ ПРАБЛЕМ, НАШЫ ДЗЕЦІ САСЛАНЫ ТУДЫ, КУДЫ Я НЕ ЗМАГУ ТРАПІЦЬ.


ВЕДАЮ, ГЭТА АГІДНА, АЛЕ...
Я ВЫКОНВАЎ СВАЮ ПРАЦУ І НАВАТ БОЛЬШ, ГЭТАГА ДАСТАТКОВА. ЦЯПЕР **ІХ** ЧАРГА.
МЫ **ЯШЧЭ** ЎБАЧЫМ ЦЯБЕ?


**СПАДЗЯВАЙСЯ**, ШТО НЕ, СНЕЖКА. Я ПАСПРАБУЮ ТРЫМАЦЦА ЯК МАГА ДАЛЕЙ – ВЫКАНАЦЬ ГЭТЫЯ МІЗЭРНЫЯ ЗАКОНЫ, ЯКІЯ Я САМ НАВЯЗВАЎ СТОЛЬКІ ГАДОЎ. АЛЕ Я НЯ ВЕДАЮ, КОЛЬКІ ЧАСУ Я **ПРАТРЫМАЮСЯ**.
РАНА ЦІ ПОЗНА, Я ПАЖАДАЮ **ЎБАЧЫЦЬ** СВАІХ ДЗЯЦЕЙ, І КАЛІ ГЭТА АДБУДЗЕЦЦА, НІЯКІЯ СІЛЫ, ЗАГАВОРЫ І СТВАРЭННІ НА ЗЯМЛІ НЯ ЗМОГУЦЬ МЯНЕ **СПЫНІЦЬ**.
ТЫ ЗБІРАЕШСЯ **ЗНІШЧЫЦЬ** УСЁ, ШТО МЫ ТАК ДОЎГА І ЎПАРТА СТВАРАЛІ?


ШТО МЫ СТВАРЫЛІ, СНЕЖКА, ДЫК ГЭТА НАШЫХ **ДЗЯЦЕЙ**, ЯКІХ ТЫ ЖАДАЕШ ЗАБРАЦЬ У МЯНЕ.
ЯНЫ – **АДЗІНАЕ**, ШТО МАЕ ЗНАЧЭННЕ. УСЕ МАЕ АБАВЯЗКІ ЦЯПЕР ТОЛЬКІ ПЕРАД ІМІ.

ШТО Ж НАМ ТАДЫ РАБІЦЬ?
ПРОСТА НЕ ІДЗІ НА ФЕРМУ, ХАДЗЕМ СА МНОЙ.

ЁСЦЬ ЯШЧЭ ЛЯСЫ НА ГЭТАЙ ЗЯМЛІ, У ЯКІХ НАС НІХТО НІКОЛІ НЯ ЗНОЙДЗЕ.
МЫ Б ЗМАГЛІ ВЫХАВАЦЬ НАШЫХ ДЗЯЦЕЙ БЕЗ УМЯШАННЯ КАЗАЧНЫХ І ЗВЫЧАЙНЫХ.


ВОХ, БОЗЛІ, Я НАВАТ НЕ...
Я НЕ МАГУ ЗДРАДЗІЦЬ ФЭЙБЛТАЎН І ЖЫЦЬ ВОСЬ ТАК.

ЗРАЗУМЕЛА НЕ. ПАСЛЯ ЎСІХ ГЭТЫХ ГАЛАШЭННЯЎ ПРА ТОЕ, ЯК ДРЭННА З ТАБОЙ АБЫХОДЗІЛІСЯ, ТЫ ДАГЭТУЛЬ ТРЫМАЕШСЯ ЗА СВАЕ **ФАНТАЗІІ** ПРА ЗАМКІ І ПРЫНЦАЎ.
У ЯКІХ САБАКІ ВЕДАЮЦЬ, ДЗЕ ІМ СЯДЗЕЦЬ – У БУДЦЫ.

НАСТУПНАЙ РАНІЦАЙ...
САЧЫ ЗА **ДЗЕЦЬМІ**, НЕ ДАЗВАЛЯЙ ІМ ВЫЛЯТАЦЬ З МАШЫНЫ.
ЯНЫ БУДУЦЬ ПРЫШПІЛЕНЫЯ.
ЯШЧЭ АДЗІН.
НЕ ТУРБУЙСЯ ЗА НАС. МЫ **ЗДОЛЕЕМ**.
БЕРАЖЫ СЯБЕ, СНЕЖКА.
Я ЎСЁ ПАДРЫХТАВАЎ ДА ВАШАГА АД'ЕЗДУ, МІС БЕЛА.

ПОСПЕХАЎ, СНЕЖКА.
САМО САБОЙ, ДЗЯКУЙ.
ВЫ ГАТОВЫ АДПРАЎЛЯЦЦА, МІС БЕЛА?

НЕ ДАЗВАЛЯЙ РУЖЫ ЧЫРВАНІ КАМАНДАВАЦЬ ТАБОЙ.







NOD'S BOOKS
Lewis Antiques
ПАЕХАЛІ, ШЭФ.

КУДЫ, СЛУЖБОВЫ?
НЯ ВЕДАЮ.

ЯК МАГА ДАЛЕЙ.


НАРЭШЦЕ!
ГЭТА ЎСЁ **НАШАЕ**!
ВЕЛЬМІ НЯ ЦЕШСЯ, ДАРАЖЭНЬКАЯ.

МЯРКУЮ, ГЭТА ХУТЧЭЙ БУДЗЕ ЦЯЖАРАМ, ЧЫМ ДАБРАСЛАВЕННЕМ.
НЯ ПСУЙ **МОМАНТ**, ЛЮБЫ.

ГЭЙ, А ГЭТА ЧЫЙ СТОЛ?

ГЭТА **МОЙ**.
У АДРОЗНЕННІ АД МАЙГО ПАПЯРЭДНІКА, Я МАЮ НАМЕР ПРЫМАЦЬ **БОЛЬШЫ** ЎДЗЕЛ У СПРАВАХ ФЭЙБЛТАЎНА.

ДЫК ДЗЕ ПАСТУШОК І ГЭТАЯ ПРАКЛЯТАЯ МАЛПА? МНЕ НЕАБХОДНА САБРАЦЬ УСІХ ДЛЯ МАЁЙ ПЕРШАЙ АФІЦЫЙНАЙ **ПРАМОВЫ**.
А Я АДКУЛЬ ВЕДАЮ? НЕКАЛЬКІ ДЗЁН ІХ НЯ БАЧЫЛА.
ТУТ УСЁ БЫЛО ТАК НЕСПАКОЙНА.



І БЛІЖЭЙ ДА КАНЦА ГЭТАГА ДНЯ...

САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ У **НОВЫ ДОМ**, СНЕЖКА!

МЫ ПАДРЫХТАВАЛІ СВЯТКАВАННЕ Ў СВІРНЕ, МІС БЕЛА!

Welcome Snow

З ВЫЛОЎЛІВАННЕМ ЯБЛЫКАЎ З ВАДЫ РОТАМ!

З МОЦНЫМ СІДРАМ!

АГА, ТАМУ РЫХТУЙЦЕСЯ ДА КУЧЫ НАПОЯЎ І ПАЦАЛУНКАЎ НА ВЫШКАХ, СНЕЖКА.

БУДЗЕ **ЦУДОЎНА**, АЛЕ...

ТЫ ВЫГЛЯДАЕШ **ВЫДАТНА**, СЯСТРЫЧКА! ВЕЛЬМІ **КАЗАЧНА**!

АЛЕ ЗАРАЗ ЖА АДЫДЗІ ЎБОК!


















ЦЯГНІЦЕ ІХ НАЗАД, ХЛОПЦЫ!
О, НЕ! **О, НЕ!**




ГУУУББЛЛРР
БУРРБ




МЫ ТЫДНЯМІ ПРАКТЫКАВАЛІ ГЭТЫЯ МАНЕЎРЫ.
ДЗІВОСНА!
ДЗЯКУЙ! ДЗЯКУЙ!




СНЕЖКА, У ТВАІХ УНІКАЛЬНЫХ ДЗЯЦЕЙ БУДУЦЬ САМЫЯ ПА-ДРЫХТАВАНЫЯ НЯНЬКІ, ПРА ЯКІХ КОЖНАЯ МАЦІ МОЖА ТОЛЬКІ МАРЫЦЬ!
АДПАЧНІ Ў ГАЛОЎНЫМ ДОМЕ. МЫ ПАДРЫХТАВАЛІ НАЙЛЕПШЫ ПАКОЙ ДЛЯ ЦЯБЕ І ТВАІХ ЛЯТУЧЫХ СПІНАГРЫЗАЎ.
Я ЎРАЖАНА.






ВОСЬ ТЫ ДЗЕ!




ШТОСЬЦІ ТЫ ХУТКА ЎЦЯКЛА. ВЕЧАРЫНА ТОЛЬКІ ПАЧАЛАСЯ.




Я ВЕЛЬМІ СТАМІЛАСЯ. У НАС БЫЎ ВЕЛЬМІ ДОЎГІ ДЗЕНЬ.
ДОБРА. ТАДЫ ДАВАЙ ПАГУ-ТАРЫМ. ЯК УСЁ ПРАЙШЛО З **БОЗЛІ**?
ЦІ БЫЛО Ў ВАС РАМАНТЫЧНАЕ РАЗВІТАННЕ?




НІЧОГА ПАДОБНАГА. УЧОРА ЎСЁ ДАЙШЛО ДА СВАРКІ, А ГЭТАЙ РАНІЦАЙ ЁН НАВАТ НЕ **ЗАГАВАРЫЎ** СА МНОЙ.
ЦЯПЕР ЁН ПАЙШОЎ ТУДЫ, ДЗЕ ЯГО НІХТО НЕ АДШУКАЕ.
ФАЙНА.




**ПРАБАЧ**, ШТО?
СВАЁЙ ЗЛОСЦЮ, ЁН ТОЛЬКІ ЖАДАЎ ПАКА-ЗАЦЬ, ЯК МОЦНА ХВА-ЛЮЕЦЦА ЗА ЦЯБЕ.
ГЭТА НЕ НАДЗВЫ-ЧАЙ ДЛЯ ТЫХ, У КАГО ЁСЦЬ ВОЧЫ.




ВЫ З ІМ ЗЛУЧАНЫЯ НЯБАЧНЫМ ЛАНЦУГОМ, ЯКІ НІЯКАЯ ЗЛОСЦЬ ЦІ АДЛЕГЛАСЦЬ НЯ МОГУЦЬ РАЗАРВАЦЬ.
ГЭТЫ ЛАНЦУГ ІСНАВАЎ З ТАГО МОМАНТУ, ЯК МЫ ЎПЕРШЫНЮ СУСТРЭЛІ ШАЛУДЗІВАГА СТАРОГА МОНСТРА, КАЛІ ЁН ВЫЗВАЛІЎ НАС З ПУТАЎ ВОРАГА.

ЁН АБВІНАВАЦІЎ МЯНЕ Ў ТЫМ, ШТО Я ДАГЭТУЛЬ МАРУ ПРА ЗАМКІ І ПРЫГОЖЫХ ПРЫНЦАЎ.
САМО САБОЮ. **ТАК І ЁСЦЬ.**

НЕРАЗУМНАЯ ДЗЯЎЧЫНКА, ТЫ І ДАГЭТУЛЬ РАДАСНА МЯРКУЕШ, ШТО ГЭТА МОЖА АДБЫЦЦА ТОЛЬКІ З ВЫСАКАРОДНЫМІ І ПРЫГОЖЫМІ З НАРАДЖЭННЯ ХЛОПЧЫКАМІ І ДЗЯЎЧЫНКАМІ, ЯКІЯ ЧАКАЮЦЬ ШМАТ ПРЫГОЖАНЬКІХ І КАШТОЎНЕНЬКІХ РЭЧАЎ.
МЫ АБЕДЗВЕ ВЕДАЕМ, ЯК **«ДОБРА»** ГЭТА ДЗЕЙНІЧАЛА ДА ГЭТАГА ЧАСУ.

ЧАМУ Б НЕ ПАСПРАБАВАЦЬ З **ДВАРНЯКОМ** У ГЭТЫ РАЗ, ПРАВЕР, ЦІ ПАЛЕПШЫЛАСЯ ТВАЯ ЎДАЧА?
ВЕЛЬМІ ПОЗНА. ЁН ПАКІНУЎ МЯНЕ.

ПАКУЛЬ ШТО. АЛЕ ЁН ВЕРНЕЦЦА.
ДОБРЫЯ ЗАЎСЁДЫ ВЯРТАЮЦЦА.
АКЕЙ, **ДРЭННЫЯ** ТАКСАМА, АЛЕ СЁННЯ МЫ НЕ АБМЯРКОЎВАЕМ **МАЁ** АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ.

ВАША СВЕТЛАСЦЬ, **ПРАЧНІЦЕСЯ.**
ВЫДАТНЫ ПРЫНЦ?

ЧАГО ТАБЕ, ХОБС? У ЧЫМ СПРАВА?
ЗНАЙШЛІ МАЛПУ, СЭР. ЯНА ХАВАЛАСЯ Ў ДАЛЁКІХ ПАКОЯХ - БАЯЎСЯ, ШТО МЫ БУДЗЕМ **ВІНАВАЦІЦЬ** ЯГО.

ВІНАВАЦІЦЬ **У ЧЫМ?**
ПАСТУШОК ЗНІК. БОЛЬШ ЗА ТЫДЗЕНЬ ТАМУ.
МАЛПА ЛІЧЫЦЬ, ШТО ЁН УЦЁК У РОДНЫЯ ЗЕМЛІ, КАБ АДШУКАЦЬ ТУЮ ДЗЯЎЧЫНУ - ТУЮ, ЗА ЯКУЮ БАБА-ЯГА ВЫДАВАЛА СЯБЕ.

ЯК?
ЯК ЁН ЗРАБІЎ ГЭТА? УСЕ БРАМЫ ЗАЧЫНЕНЫЯ.
ВІДАВОЧНА, ЁН УЦЁК НЕ З ПУСТЫМІ РУКАМІ.

ЁН ВЫКРАЎ **ВЯДЗЬМАРСКІ ПЛАШЧ.**
ТАКСАМА **ВОСТРЫ МЕЧ І ТРУП ПІНОКІА.**
МЫ ПРАВОДЗІМ ПРАВЕРКУ НА ВЫПАДАК, КАЛІ ЁН ВЫКРАЎ ЯШЧЭ ШТО-НЕБУДЗЬ.






Я ТУТ, СНЕЖКА.
ТЫ ЖАДАЛА ПАГАВАРЫЦЬ?


КОЛІН? ГЭТА ТЫ?
ШШШШШШ
НЕ АБУДЗІ ДЗЯЦЕЙ.


ЯНЫ НАС НЕ ПАЧУЮЦЬ. ТЫ СПІШ.
ВО ДОБРА.


ТЫ ПАКЛІКАЛА МЯНЕ Ў СВОЙ СОН. ТЫ ЖАДАЛА ШТОСЬЦІ ЗАПЫТАЦЬ?
КОЛІН, ДРЭННАЯ ПАЛАСА **СКОНЧЫЛАСЯ**? УСЁ БУДЗЕ ЛЕПШ?


МАЦІ БОСКА.
ЖАДАЎ БЫ Я ГЭТА СКАЗАЦЬ, СНЕЖКА.
САПРАЎДЫ, ЖАДАЎ БЫ.
ДАЛЕЙ: БУДЗЕ ХАЛАДНЕЙ.